# НАВІНКІ

31 кастрыніка - 6 лістапада 2002 №23(72) Кошт свабодны






## Аляксандар Юроўскі забівае свайго цара



Стар.7

## БЯГУЧЫ БОМЖ




Стар. 8



# «Атручвай сваіх, каб чуЖыя баяліся!»

Як і меркавалася, жыцьцё ўласных грамадзянаў для Дзяржавы Расейскай цэніцца невысока. Нават падчас здавалася б «вызвольнай» апэрацыі загінулі кожны 6 закладнік - паводле афіцыйных зьвестак 1 (адзін!) закладнік сканаў ад шальной чачэнскай кулі,а астатнія 119 (сто дзевятнаццаць!) аказаліся нявольнымі пацыентамі расейскіх майстроў наркозу, якім ня выпала ўжо ачухацца.

Нягледзячы на такія ўражныя лічбы ахвяр вызваленьня, па ўсіх расейскіх каналах бесьперапынна ліецца фіміям наконт «ювэлірнасьці» спэцназаўскай апэрацыі, а замежныя купцы намагаюцца прыдбаць сабе рэцэпцік трымэтылфэнтанілу, які і быў тым сьмярцельным дурманам. Усё гэта ідзе пад ура-патрыятычныя камэнтары і яшчэ й яшчэ раз паўтараныя словы расейскага прэзыдэнта «Мы яшчэ раз прадэманстравалі ўсім, што Расею не магчыма паставіць на калені». Пры чым мала хто задумваецца над маштабамі трагедыі і зусім ужо ніхто ня вякне пра тое, хто ж будзе і ці будзе несьці адказнасьць за забойства ні ў чым не павінных людзей, якія загінулі далёка не ад рук чачэнскіх бандытаў.

Ня ставіцца пад пытаньне й апраўданасьць ужываньня такой «ювэлірнай» меры. Безапэляцыйна сьцьвярджаецца, што каб не спэцназаўская нарката, то бандзюганы прывялі б у дзеяньне сваю пякельную машынку і...

Можна быць амаль на 100 працэнтаў упэўненым, што калі, барані бог, зноў якія небудзь шахіды надумаюць зноў правесьці захоп закладнікаў, Расея правядзе па ўсіх адразу ракетна-бомбавы авіяўдар, і ўжо без аніякіх наркозаў.

Працяг тэмы на стар.2, 4-5

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 31.10.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 275

# Апэрацыя «Наркоз»

## Гульня для зьдзецінелых палітыкаў сталага ўзросту

П[illegible]

### Камплект гульні

[illegible]

### Падрыхтоўка да гульні

[illegible]

### Правілы гульні

[illegible]

А)

Б)

[illegible]

### Каманда «Закладнікі»

Сувязная

Атручаны

### Каманда «Спэцназ»

Сувязіст

Байцы

Снайпер

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Тэрарысты даюць інтэрвію расейскім тэлеканалам, у якім фармулююць сваё патрабаваньне – вывад фэдэральных войскаў з Чачэніі... | Спэцназ ужыў аэразолю-фэнтаніл і сьветла-шумавыя гранаты... | Н | | | |
| Шахіды цяжка паранілі двух закладнікаў... | Чачэнцы ўжываюць унутрывенныя транквілізатары, каб не заснуць і быць напагатове... | Байцы «Альфы» і «Вымпелу» забілі кіраўніка тэрарыстычнай групы Маўсара Бараева і ягоных паплечнікаў... | О | | | |
| Нямцоў, Хакамада і Кабзон спрабавалі весьці перамовы з тэрарыстамі... | Адзін з закладнікаў кінуў бутэльку ў жанчыну-сьмяротніцу і паспрабаваў уцячы... | Сапёры пачалі разьмініраваньне выбуховых зарадаў, якія былі ўсталяваныя ў ДК... | Р | | | |
| Чачэнцы расстралялі дзьвюх невядомых асобаў... | Закладнікам забаранілі карыстацца сотавымі тэлефонамі... | Жанчыны-камікадзэ заснулі пад узьдзеяньнем аэразолі і былі ліквідаваныя... | Д | Машыны «хуткай дапамогі» пачалі вываз целаў вызваленых закладнікаў... | У Маскве стыхійна праходзілі маніфэстацыі супраць вайны ў Чачэніі... | Журналістам забаранілі паведамляць аб перасоўваньні спэц-падразьдзяленьняў у радыё- і тэлеэфіры... |
| | | | О | Падразьдзяленьні спэцназу праніклі ў будынак ДК праз задні праход гей-клюбу «Цэнтральная станцыя»... | Кабзон вывеў з ДК групу з васьмі дзяцей... | Высьвятляецца, што сярод закладнікаў ёсьць і грамадзяне РБ... |
| | | | С | Апэратыўны штаб пускае дэзынфармацыю аб пачатку штурму... | У раёне ДК тусуюцца людзі, якія прапануюць абмяняць сябе на закладнікаў... | Сярод разявак знайшлі пасобнікаў тэрарыстаў... |
| | | | Т | Байцы «Альфы» прабіраюцца ўнутар будынку праз падземныя камунікацыі... | Да ДК падцягваюць бронетранспарцёры... | |

# Back in USSR

## *Чарговы віток моды на савецкія рудымэнты*

Разам зь іншымі рэтра-модамі зноў вяртаецца мода на савецкую сымболіку, таксама як і паўтара дзесяцігодзьдзя таму, калі панкуючыя дробнабуржуазныя снобы кшталту лёнданскай Maniac Street Preachers абвешваліся значкамі зь пяціканцовымі зоркамі, савецкімі гербамі і партрэтамі Леніна ды Сталіна. Забава капіталістычных моднікаў выглядала цалкам нявіннай, калі ўлічыць, што ніхто з тых, хто любіць папалохаць сваіх менш радыкальных суседзяў папулярнымі лёзунгамі «Marx's not dead» і «чырвонай чумой» нібы хэлоўінаўскім пудзілам, ніколі ўсур'ёз не зьбіраўся мяняць капіталістычную бацькаўшчыну на сацыялістычны «рай». Сёлета на стадыёне «Дынама» дый на іншых кірмашовых пляцоўках можна сабе набыць парткі з савецкім гербам ці кофту з надпісам СССР, але наўрад ці хто з індывідуальных прадпрымальнікаў пагодзіцца зьмяніць свае латкі на месца каля станка.






*Фрагмэнты туалету ў стылі «а-ля рус»*

Для аматараў постсавецкай настальгіі ў капіталістычнай Маскве выйшла кніжка пад тытулам «Чья Белоруссия?» Мікалая Зяньковіча, напісаная ў духу такіх пэрлаў савецкай дакумэнталістыкі як «ЦРУ против СССР», «Апостолы без масок» ці знакамітага «Вторжения без оружия». Кніжка, якую, як паведамляе аўтар «піша ўсё жыцьцё», дае новы погляд на гісторыю адносінаў Беларусі і Расеі, і на думку і аўтара, і ягоных маскоўскіх заказчыкаў, павінна разьвянчаць усе міфы этнарадыкалаў іх прэтэнзіі на незалежнасьць Беларусі, назва якой у загалоўку напісаная на савецкі капыл «Белоруссия». Сам Зяньковіч лічыць сябе беларусам. Але памыляюцца тыя, хто ўбачыць у адкравеньнях журналіста *Чырвонай Змены* звычайнае рохканьне «сьвіньні пад дубам» – не, гэта зьява хутчэй з галіны сучаснага інфармацыйнага рынку, павіннага задаволіць попыт нават такіх прывярэдаў, як левыя радыкалы ●

**Малькальм Макларэн**

# Трулі на Каляды

## Новыя тэндэнцыі моды



Зьмяшчаецца, зьмяшчаецца паціху модны цэнтар Эўропы да геаграфічнага, да роднай нашай старонкі Беларусі. Варта ўспомніць хаця б, што нацыянальным ордэнам Францыска Скарыны зь лёгкай рукі Прэзыдэнта нядаўна было ўзнагароджанае французскае сьвяціла мадэльнага бізнэсу – П'ер Кардэн, перад якім бляknуць усе папярэднія кавалеры высокай дзяржаўнай узнагароды – Палпалыч Барадзін, Юры Лужкоў, Расьціслаў Янкоўскі і Уладзімір Мулявін. Відаць, Прэзыдэнта натхніла апошняя восеньская калекцыя знакамітага куцюр'е з рушачкамі, банцікамі і свабоднымі але строгімі строямі, якія так пасуюць беларускаму мэнталітэту, чаму і зьявілася такая фармулёўка ўзнагароды, як «за значны ўнёсак у развіцьцё беларуска-французскіх адносінаў». Аднак апошнія падзеі паказваюць, што гэта быў ня больш, чым жэст добрай волі і даніна модзе з боку мудрага кіраўніка дзяржавы: Беларусь хутка зойме месца Францыі на модным Алімпе сьвету, і тэндэнцыі сусьветнай моды будуць дыктавацца з гораду на Сьвіслачы, а не з-пад Эйфелевай вежы. Монстар беларускай эратычнай моды – прадпрыемства «Мілавіца» – выпусьціў на рынак прынцыпова новую калекцыю жаночай бялізны пад інтрыгуючай назвай «Калядная калекцыя», якая складаецца ажно зь пяцідзесяці ўзораў і разьлічаная на ўсе ўзросты. Фантазія беларускіх мадэльераў ня можа не ўражваць: тысячы беларускіх жанчын набудуць калекцыйныя трусы, спакусяць сваіх мужчын у калядную ноч, і на Беларусі зьявяцца сотні дзяцей, якія пасьля пойдуць у садкі, пасьля вучыцца і магчыма некаторыя зь іх пойдуць працаваць у «Мілавіцу» прыдумваць новыя калекцыі. Карацей, падтрымка дэмаграфічнай бясьпекі краіны не губляе сваёй актуальнасьці. Адзінае, што насьцярожвае, гэта як будзе выглядаць «Калядная калекцыя» – ці будуць на бялізьне выявы Санта Клаўса, каляднай елкі, альбо можа да трусоў будуць прышытыя бароды ці мяхі для калядных падарункаў. Таксама цікава, ці рыхтуюцца да выпуску калекцыі да 23 лютага – зь ячэйкамі для патронаў і гранат, – і да 8 сакавіка – з выявамі Клары Цэткін і Розы Люксэмбург? ●

*МУзыка*

## Аркестровая яма тэрарызму

Краіна наша ўпэўненымі крокамі ідзе да ролі галоўнага генэратара сусьветнай культурнай прасторы. І на пачатку лістапада будзе выпраўленае недарэчнае ўпушчэньне міністэрства культуры: у Беларусі нарэшце зьявіцца імянны аркестар Прэзыдэнта краіны, які пэўна апраўдае чаканьні мэляманаў. Музычная эліта ў адзіным парыве грызецца зараз за месца ў галоўным аркестры краіны, і на кожнае месца прэтэндуе па дзесяць сапраўдных прафэсіяналаў, якія дзеля такога гонару гатовыя кінуць любыя музычныя калектывы. Аднак адбор вельмі строгі: акрамя канцэртмайстраў Дзяржаўнай філармоніі, Акадэміі музыкі і Тэатру опэры і балету галоўнае месца ў камісіі па адбору займаюць дырыжоры аркестраў міністэрстваў абароны і ўнутраных справаў. І гэта ня толькі натуральна, але й неабходна: кожны павінны прайсьці тэст на лаяльнасьць і чэсныя адносіны да таварыша Лукашэнкі. Галоўнай вартасьцю аркестру яго будучы дырыжор Віктар Бабарыкін лічыць унівэрсальнасьць і мабільнасьць, і гэта ў сувязі са складам журы прыводзіць да натуральнай высновы, што пры неабходнасьці аркестар можа быць выкарыстаны як элітнае спэцпадразьдзяленьне для барацьбы з тэрарызмам і аховы дарагога Прэзыдэнта, і думаецца, што ў чахлах у музыкаў будуць ня толькі музычныя інструмэнты, як у італьянскіх вэстэрнах. Сапраўдныя прафэсіяналы павінныя быць шматстаночнікамі, кожны мусіць быць чалавекам-аркестрам, каб не магло здарыцца такой фігні, як на «Норд-Осьце».

# *Свабодныя білецікі ёсьць!*

На што толькі ня пойдуць аматары музыкі, каб рэалізаваць сваю даўнюю блакітную мару – убачыць сваіх куміраў на сцэне. Але, вядома, не заўжды хапае бабак, каб заплаціць за ўваходны білет на жаданае шоў. Але і з такой сытуацыі выйсьце сапраўдны мэляман заўсёды знойдзе. Увечары 29 кастрычніка фэны гурта SCORPIONS стырылі каля 100 білетаў на канцэрт гурта ў Менску на агульную суму каля 6 з паловай мільёнаў рублёў.



Як паведамілі ў кіраўніцтве прад'юсэрскага цэнтру «Класс-Клуб Джас Крафт», які й займаецца арганізацыяй гэтага канцэрту «скарпоў», білеты выцягнулі ў аднаго з грамадзкіх распаўсюднікаў з торбы, калі той ехаў у гарадзкім транспарце. Аднак, відаць, аматарам SCORPIONS можа быць не да канцэртаў любімага вакальна-інструмэнтальнага ансамблю – па факту крадзяжы ўзбуджаная крымінальная справа. Праваахоўныя органы ўжо бяруць пад свой кантроль усе кропкі распаўсюду білетаў на канцэрт з надзеяй, што злачынцы паспрабуюць рэалізаваць скрадзеныя звыш нормы білеты. Так што рэкамэндуем усім, хто мае лішнія 30 баксаў для Кляўса Майнэ, праявіць пільнасьць і не купляцца на ўкрадлівы галасок «Ёсьць лішні білецік! Аддам са скідкай»: палёныя білеты будуць адсочвацца на ўваходзе аховай, і вы рызыкуеце трапіць у непрыемную сытуацыю. А лепш увогуле сядзіце дома або схадзіце на Міхаіла Еўдакімава – эфэкт будзе той жа ●

## БВВ супраць Карлсана

Не пасьпелі яшчэ астыць жарсьці вакол маскоўскага м'юзыклу «Норд-Ост», як жыцьцё бяжыць далей. 10 лістапада ў ДК МАЗ у Менску адбудзецца музычны спэктакль для дзяцей «Малы і Карлсан». Як нам паведамілі ў дырэкцыі ДК, арганізатары дзіцячага м'юзыклу зрабілі высновы з нашумелага інцыдэнту з захопам і вызваленьнем закладнікаў. Усім гледачам будуць раздадзеныя працівагазы, а ў залі будуць пастаўленыя біятуалеты. І ў выпадку зьяўленьня ў залі людзей у камуфляжы з Беларускага Вызвольнага войска (іншых тэрарыстаў у нас няма), улады будуць цалкам падрыхтаваныя да адбіцьця ўдару. Дзіўна тое, што пастаноўшчыкаў беларускага м'юзыкла не пужаюць аналёгіі з маскоўскімі падзеямі: як усе памятаюць, «Норд-Ост» распавядаў пра лётчыкаў, а менскі м'юзыкл таксама ў пэўным сэнсе прысьвечаны лёсу домарошчанага авіятара. Адзінае, што можа спыніць магчымых тэрарыстаў – у залі будуць амаль толькі дзеці, і ўсіх




закладнікаў давядзецца адпусьціць. А Бацька ў сваю чаргу ўжо дакладна не дазволіць паставіць краіну на калені... ●

**Фрэкен Бок,**
хатняя гаспадыня

## РЭАЛ-ШОЎ

# БЯГУЧЫ БОМЖ




Хто ня памятае змрочныя карцінкі будучыні, намаляваныя ў фільме «Бягучы чалавек» са Шварцам у галоўнай ролі, дзе той вымушаны ўдзельнічаць у крывавым рэальным тэлешоў. Гэтая будучыня ўсё бліжэй падыходзіць да сёньняшняй рэальнасьці і рэал-шоў даўно ўжо не абмяжоўваюцца бяскрыўдным «Вялікім Братам» або «Апошнім героем». Сёньня ў модзе сапраўдны сацыяльны драйв'.На тэлеэкраны сьвету хутка выйдзе аргентынскае рэал-шоў пра беспрацоўных, якія змагаюцца за працоўныя месцы, стыпэндыі на навучаньне і прызы.Сусьветныя правы на шоў пад назвай «Кадры» (Human Resources) зарэзэрвавала за сабой кампанія Sony Pictures Television.

Некаторыя паліткарэктныя крытыкі адразу ж паднялі лямант, маўляў, шоў спэкулюе на беспрацоўі, якое зьяўляецца сацыяльнай трагедыяй. На прыклад, у той жа Аргентыне афіцыйна палова насельніцтва – беспрацоўныя.

Гадзінавыя выпускі шоў транслююцца па аргентынскім БТ ў выходныя дні. Аўдыторыя ў студыі і гледачы вызначаюць, хто зь беспрацоўных больш пасуе да той ці іншай працы. Мы прапануем беларускім тэлеканалам таксама ня хлопаць варажкай, а хутка змайстрачыць якое-небудзь сваё рэал-шоў, якое ператворыць у залатога цяльца нашыя сацыяльныя праблемы. А іх у нас цэлы Кландайк. Напрыклад, паводле афіцыйнай міліцэйскай статыстыкі ў Менску за апошні дзясятак гадоў колькасьць бамжоў павялічылася ўтрая. Дык чаму б не замуціць у самы глядзельны час шоў «Бягучы бомж» са зборам рэклямнага часу і розыгрышам сярод пераможцаў менскай прапіскі і хаты ў цэнтры сталіцы?


















Дзядзька Флакон, гурман



Халімонаўна, калекцыянэрка



Васёк, воін-інтэрнацыяналіст



Шульган, спэцыяліст па розьнічным гандлі



Фаціма, турыстка
















